Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

23 ліпеня 1997 года
СЕРАДА
№ 34
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 444 руб.
Цана ў розніцу – 700 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Наведаў Целяханшчыну, сустрэўся з актывам раёна

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Першы намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Пётр Пракаповіч на гэтым тыдні цікавіўся ходам работ, разгорнутых па ліквідацыі наступстваў урагану, што абрынуўся на Целяханшчыну. Ён наведаў завод сталярных вырабаў, лыжную фабрыку, лясгас, а таксама месцы, дзе моцна пагаспадарыла стыхія.

Вечарам, 17 ліпеня, высокі госць правёў нараду з актывам раёна ў Доме Саветаў, даў каштоўныя ўказанні, якія дысцыплінаваныя начальнікі абавязкова выканаюць.

### Ягады з саўгаснага саду

**БАРАНАВІЧЫ.** Першыя дзесяткі тон чарэшні, чырвоных і чорных парэчак адправіў у гандаль саўгас імя Чарнышова.

– Сёлета мы намераны сабраць і рэалізаваць 100 тон ягад і садавіны, – запэўнівае галоўны аграном гаспадаркі Аляксей Мікалаевіч Толах. – У нас, напэўна, адзіны і ўнікальны сад на ўсю Беларусь. Больш за 400 гектараў кустарнікавых, яблынь, алычы, вішні, чарэшні, грушы. Гатункі – элітныя. Па наш ураджай прыязджаюць з Расіі і Прыбалтыкі.

У Пятковічах – цэнтральнай сядзібе саўгаса – гандаль ідзе напружаны. Арганізацыі і прыватныя прадпрымальнікі нарасхват бяруць салодкія паўнаважкія ягады. Многім, даверанымі і праверанымі, прадукцыя адпускаецца без папярэдняй аплаты. Дарэчы, сёлета саўгас абсталяваў свой міні-рынак ля чыгуначнай станцыі Баранавічы–Палескія. Тут – самыя свежыя ягады.

– Летась сабралі 75 тон, сёлета плануеце 100 тон займець. За кошт чаго? – такое пытанне адрасуем дырэктару Мікалаю Уладзіміравічу Івашку.

– Я ўсяго год ля руля гаспадаркі, – усміхаецца ён. – Прыняў сад у даволі бясрадзейным стане. Давялося шмат папрацаваць. Асабліва асцярожна праводзілі хімічную апрацоўку. Як кажуць, не перасаліць бы. Дзякуй Богу, справіліся. Раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі даў дабро на рэалізацыю. За кошт сада спадзяемся паправіць фінансавыя справы ў саўгасе.

### Слава знайшла лесаруба

**ІВАЦЭВІЧЫ.** „А назаўтра ён прачнуўся славутым". Гэты крылаты выраз цяпер мае прамое дачыненне да вальшчыка лесу Целяханскага лясгаса Анатоля Іванавіча Палуяновіча, які стаў пераможцам рэспубліканскага чэмпіянату „Лесаруб-97". Па суме шматбор'я ён набраў 1518 ачкоў – найвышэйшы паказчык, якога ніхто з удзельнікаў не змог больш дасягнуць. Чэмпіён атрымаў у якасці прэміі бензапілу „Штыль".

Гэтае першынства характэрна тым, што яго пераможца, па ўсёй верагоднасці, трапіць на чэмпіянат свету лесарубаў, які пройдзе ў наступным годзе ў Аўстрыі. Яшчэ не вядомы канкрэтныя тэрміны правядзення. Калі гэты турнір адбудзецца на пачатку лета, дык гонар нашай рэспублікі прыдзецца абараняць А. І. Палуяновічу. У выпадку, калі час правядзення перасунуць на жнівень, у альпійскія лясы паедзе пераможца спаборніцтваў „Лесаруб-98". Так што пытанне, хто ж будзе ўдзельнічаць у аўстрыйскім чэмпіянаце, застаецца адкрытым.

Заўважым: прахадны бал для заяўкі на ўдзел у такога кшталту спаборніцтвах – 1100 ачкоў. Наш жа Анатоль Іванавіч перасягнуў гэтую рысу і мае ў сваім активе запас у некалькі сотняў ачкоў.

**„ВЫ ХОДЗІЦЕ Ў КІНАТЭАТР?"**

Так называлася інфармацыя, змешчаная ў нашай газеце 16 ліпеня. На жаль, у ёй дапушчаны памылкі друку. Сёмы радок у першым абзацы трэба чытаць: „У мінулым годзе „Партызан" наведалі 10.288 чалавек. А толькі за першае паўгоддзе гэтага года кінагледачоў было 7.838".

Лічбы 13.713.500 і 11.288.000 – гэта выручка, якая атрымана ад рэалізацыі білетаў летась і за першае паўгоддзе гэтага года.

*25 ЛІПЕНЯ – ДЗЕНЬ ПАЖАРНАЙ СЛУЖБЫ*

◆



*Камандзіру аддзялення сяржанту унутранай службы Івацэвіцкай ваенізаванай пажарнай часці Юрыю Ламейку і радавому ўнутранай службы Мікалаю Чуйку, якіх вы бачыце на здымку, прыходзіцца па абавязку службы ўтаймоўваць агонь, ратаваць народнае дабро. Спецыялісты яны вопытныя, кваліфікаваныя.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

**(Інтэрв'ю з намеснікам начальніка атрада ваенізаванай пажарнай службы г. Івацэвічы В. І. Рабчэнем чытайце на 2-й стар.).**

### Бурштын пад бокам

**БАРАНАВІЧЫ.** Беларускія вучоныя адкрылі вялікія залежы бурштыну. Асобныя, даволі буйныя экзэмпляры яго геолагі знаходзілі на глыбіні 30–40 метраў. І важылі яны да аднаго кілаграма. Па якасці беларускі бурштын блізкі да лепшых сусветных узораў. Распрацоўваецца прамысловая праграма яго здабычы. Сенсацыя! Паласа залежаў гэтага паўкаштоўнага каменя праходзіць праз Баранавіцкі раён.

Не спяшайцеся хапацца за рыдлёўкі. Каб здабыць бурштын, патрэбна магутная кар'ерная тэхніка.

● *АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?*

## Пенсіённы ўзрост пакуль застаецца ранейшым

*Ходзяць чуткі, што хутка павялічаць пенсіённы ўзрост. Ці не маглі б вы адказаць, колькі трэба будзе мець гадоў, каб пайсці на пенсію па старасці? Тут адразу хачу выказаць сваё меркаванне: пры сённяшнім жыцці многія людзі не дажываюць і да цяпер устаноўленых тэрмінаў выхаду на пенсію. Калі іх павялічаць, то дзяржава адразу пабагацее, бо многія да яе проста не дажывуць, а значыць і атрымліваць не будуць...*

*В. КРАЕЎСКІ, жыхар г. Івацэвічы.*

**Каб адказаць на гэтае пытанне, мы звярнуліся да намесніка начальніка аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва Івацэвіцкага райвыканкама Н. В. САЯВЕЦ.**

– Ніякіх указанняў, распараджэнняў ці ўказаў аб павышэнні пенсіённага ўзросту мы не маем, – адказала Надзежда Васільеўна. – Таму ніякай гаворкі аб павелічэнні тэрмінаў выхаду грамадзян на пенсію цяпер весці не трэба. Думаецца, што чуткі ўзніклі ад таго, што некаторыя газеты апублікавалі яшчэ вясной гэтага года „Канцэпцыю рэформы сістэмы пенсіённага забеспячэння Рэспублікі Беларусь", у якой прапануецца стымуляванне больш позняга выхаду на пенсію. Зазначу: ранейшыя юрыдычныя тэрміны выхаду грамадзян на пенсію – жанчын у 55, мужчын у 60 гадоў – у канцэпцыі захоўваюцца. Проста тыя з работнікаў прадпенсіённага ўзросту, якія вырашаць пайсці на заслужаны адпачынак пазней устаноўленых тэрмінаў, у перспектыве могуць мець больш высокую пенсію. Такое рашэнне чалавек, будучы пенсіянер, будзе прымаць самастойна.

Такім чынам, павышэння пенсіённага ўзросту, паважаныя нашы чытачы, пакуль не чакаецца. Бо канцэпцыя рэформы пенсіённага забеспячэння – гэта толькі праект, які будзе разглядацца ўладнымі структурамі. Але што ўрэшце рэшт у Беларусі пенсіённы ўзрост павысіцца, гавораць многія спецыялісты і палітыкі, бо эканамічнае становішча краіны вынудзіць урад прыняць такую меру. Справа толькі ў тым, калі гэта адбудзецца – праз год–два ці праз 10.

## Дзе бараніць свае правы?

*Жывем мы ў глыбокай правінцыі і толькі праз нейкія пераказы ці чужыя паведамленні чулі, што ў Мінску створаны Беларускі Хельсінкскі Камітэт. Чым займаецца гэты камітэт і як з ім звязацца?*

*К. КРОТ, жыхар г. Бярозы.*

Міжнародны Хельсінкскі рух узнік пасля Еўрапейскай канферэнцыі ў Хельсінкі (1975 г.) і ахоплівае ўсе кантыненты. Яго мэта – бараніць правы чалавека.

Недзяржаўная рэспубліканская арганізацыя па абароне правоў чалавека – Беларускі Хельсінкскі Камітэт – зарэгістравана ў лістападзе 1995 года. У яе складзе юрысты, псіхолагі, журналісты, палітолагі, пісьменнікі, вайскоўцы – звыш 50 чалавек.

Пры БХК дзейнічаюць 10 камісій: свабоды слова і друку (узначальвае К. Шэрман), па праблемах ваеннаслужачых (А. Сакалоў), пенітэнцыярная (В. Філіпаў), свабоды веравызнання (Ю. Быкаў), палітычных рэпрэсій (В. Вяргей), лінгвістычная (І. Саверчанка), па пытаннях працоўнага права (А. Хількевіч), па правах дзяцей (Н. Грыгор'ева), па правах жанчын (Н. Стужынская), палітычных і грамадзянскіх правоў (Л. Баршчэўскі).

Старшыня Назіральнага сойму БХК Васіль Быкаў. Старшыня Рады БХК Таццяна Працько.

Тэлефон БХК у Мінску: (0172) 68-55-55.

### Аперацыя "Пешаход"

**ІВАЦЭВІЧЫ.** З 20 ліпеня ў раёне пачалася аперацыя „Пешаход". Яна працягнецца да канца месяца. Мэта аперацыі – прыцягнуць увагу ўсіх грамадзян да правілаў дарожнага руху і асаблівa да знаходжання на дарогах пешаходаў. Менавіта па іх віне сёлета адбыліся тры дарожна-транспартныя здарэнні – адзін чалавек загінуў і двое – паранена. Зарэгістравана яшчэ восем наездаў на пешаходаў. Трое з іх загінулі, а шэсць чалавек атрымалі раненні.

### Пайшла з дому

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У раённы аддзел унутраных спраў з заявай звярнулася жыхарка райцэнтра Т. Я. Коцік. Яна просіць адшукаць яе 15-гадовую дачку Кацярыну, якая 11 ліпеня г. г. у 22 гадзіны пайшла з дому і да гэтага часу не вярнулася.

Яе прыкметы: на выгляд – 16–17 гадоў, рост – 164 см, сярэдняга целаскладу, валасы доўгія, светлыя і прамыя, вочы блакітныя, твар авальны. Апранута ў белую майку з малюнкам на грудзях, светлую з капюшонам кофту, белую джынсавую спадніцу. На нагах – белыя басаножкі.

На пошук без вестак прапаўшай непаўналетняй дзяўчыны мабілізаваны асабовы састаў аддзела, пасты ДАІ і грамадскасць.

# МАРКОЎСКІ ГРУД

● *ЛЕГЕНДЫ І БЫЛІ МАЁЙ РОДНАЙ ВЁСКІ*

Занатоўваючы ў сваім жыццяпісе быль, што адбылася пры маёй памяці ў роднай вёсцы і ва ўрочышчы „Маркоўскі груд", дзе знайшоў свой бясслаўны канец у 1941 годзе Татарын, я ўспомніў цікавы аповяд старога сенькаўскага пастуха Анупрэя Шэлеста. Аб гэтым нельга не расказаць. А пачуў я той аповяд ад Анупрэя тады, калі і сам хадзіў у пастухах, мабыць летам 1935 года.

...Сышліся мы неяк са старым на выгане ў сервітуце (пастухі часта сустракаліся там ды вялі размову аб чым-небудзь). Каровы, чарада ад чарады воддаль, пасуцца спакойна, а стары, панаракаўшы крыху на сваю долю, нешта ўспомніў аб Маркоўскім грудзе. Там, маўляў, і паша добрая ёсць, але вясной і восенню каровам туды амаль не дабрацца – гразка. А потым і гаворыць:

– Вось ты, саколік, грамаце навучыўся і яшчэ ўзімку вучышся, розныя там кніжкі чытаеш ужо... А ці ведаеш, чаму тое месца так найменавана – Маркоўскі груд?

– Не, кажу, не ведаю. Маркоўскі груд дый Маркоўскі груд... усе так гавораць. Вунь, ёсць жа ў нас урочышча „Задні брод", „Курнік", „Пажарок"... А чаму тыя мясціны так называюцца – хто ведае?

– Во-во, даражэнькі ты мой, – мовіў Анупрэй, – хто ведае? Гэта ж не проста так – ляп-цяп і назва паявілася. На ўсё гэта пэўная прычына бывае...

Анупрэй павёў позіркам па наваколлі ў задуменні, хвілінку памаўчаў і спакваля сказаў:

– Вось паслухай, саколік, што раскажу я табе. Было гэта даўным-даўно. Ад дзядоў я чуў тую гісторыю яшчэ тады, калі бегаў такім саменькім падшыванцам, як ты зараз, дальбог. У тыя даўнія часы ў нас на Беларусі, у нашай мясцовасці, якую палякі называюць цяпер „Крэсамі ўсходнімі", царавалі расійскія ўлады. Цяжка жылося нашаму брату-мужыку, да знямогі цяжка. Не лепей як зараз...

І знайшоўся ў нашым краі разумны і смелы мужык, які ўсчаў бунт супраць царска-памешчыцкага прыгнёту, супраць бяспраўя беларусаў. Звалі яго проста, па-нашаму – Кастусь, а па прозвішчу – Каліноўскі. Відно, дужа граматны быў чалавек. Казалі, што газету „Мужыцкая праўда" на нашай мове недзе ў Вільні друкаваў. І гоман той праўды па ўсім краі быў чутны. На бойку за волю клікаў ён мужыкоў, за зямлю і вольную працу.

Народ просты адгукнуўся на покліч таго Кастуся. Многія людзі згуртаваліся ў атрады – хто з вінтоўкамі, хто з косамі, а хто і з сякерамі. У многіх месцах – на Гарадзеншчыне, на Віленшчыне... – пралілася тады мужыцкая кроў у той бойцы з царскімі салдатамі. Дакацілася народнае паўстанне, саколік ты мой, і да нас. Бо доўжылася яно, казалі, ні дзень, і не тыдзень, а болей за год. Казалі, надта жорстка расправляўся з паўстанцамі царскі генерал Мураўёў.

Казалі старыя, што ў нас дзейнічаў тады атрад паўстанцаў пад кіраўніцтвам ці то рускага, ці можа і польскага афіцэра па прозвішчу Маркоўскі. Мужны быў чалавек, яго дружына хавалася, знаходзіла прытулак у нашых лясах і адтуль рабіла на конях смелыя набегі на мураўёўцаў; наносіла свае адчувальныя ўдары па ворагу звычайна там, дзе іх меней за ўсё чакалі, паяўляючыся ўнеспадзеўку. Казалі, жорсткія схваткі адбыліся непадалёк ад Івацэвічаў, каля Шыбельнай гары, а таксама ў пералесках, дзе цяпер сенькаўскія могілкі. У той бойцы тады ўсчаўся вялікі лясны пажар. Вось пасля таго месца тое людзі сталі называць „Пажарок". Праз пэўны час той Пажарок зрэдку пазарос ядлоўцам, завяліся там брусніцы. Казалі старыя, што гэныя калючыя дрэўцы-кусты і ягады-брусніцы – святая памяць зямлі нашай пра тых, хто за яе загінуў, а з'яўленне ягад – знак кропляў пралітай там крыві абаронцаў тэй зямлі.

Во як, саколік ты мой...

Стары пастух хвіліну памаўчаў, зноў акінуў сваім позіркам наваколле, нібы штосьці прыпамінаючы, і прадоўжыў свой аповяд:

– А той узвышак паблізу Івацэвічаў (там і цяпер старыя сосны шумяць) людзі потым, ну, пасля разгону бунту сялянскага, назвалі „Шыбельнай гарой". Спытаешся, чаму найменавалі так мясціну тую? Ды, казалі, таму, што там карнікі ад генерала Мураўёва на сасновых суччах вешалі захопленых у палон паўстанцаў. Вось табе і шыбеніца, і... Шыбельная гара.

Мінула некалькі гадоў пасля бесчалавечнай расправы над бунтарамі. На ствале адной з соснаў на Шыбельнай гары паявілася вырубка, а ў яе быў ўпраўлены абразок Маці Боскай. З цягам часу іконку тую зацягнула смалой-жывіцай і яна быццам ўрасла ў дрэва. Там і цяпер яе, тую сасну з абразком, можаш пабачыць. Гэта памяць удзячных нашчадкаў аб мужных продках, якія ў свой час змагаліся супраць бяспраўя простых людзей, такіх як я і ты, змагаліся за нашу мужыцкую волю...

Доўга гойсалі, мой саколік, па нашым краі карнікі. Доўга не давалі ім спакою хлопцы з дружыны Маркоўскага. Сталае месца знаходжання яго атрада было за „Заднім бродам", амаль у недаступным у той час месцы, якраз на тым самым грудку, які мы зараз называем Маркоўскім. Казалі, бойкі бывалі ў розных месцах. Карнікі баяліся ўглыбляцца ў лес, але ж даходзілі да „Курніка". У тыя часы тая мясціна была вельмі забалочаным участкам альховага лесу. І „выкурыць" адтуль паўстанцаў карнікам ніяк не ўдавалася. Можа ад таго і Курнікам тое месца сталі называць. Казалі, дружыннікі цераз „Задні брод" адыходзілі пры няўстойцы далей, у лес, а там – на сваю базу на Маркоўскім грудку. У тэй мясціне іх ніхто не шукаў, бо і Задні брод быў непраходным...

...Каровы нашы, мірна пасучыся, крыху аддаліліся ад нас. А мы сядзелі на пяньках трухлявых: стары павольна вёў свой аповяд-легенду, а я з цікавасцю слухаў яго. Па праўдзе сказаць, аб паўстанні Каліноўскага, што адбылося на Беларусі ў 1863–1864 гадах, на той час я сёе-тое дзесьці чытаў. Дый у школе пані Вільчынска на адным з урокаў гісторыі ўпаміняла гэта імя. Але аб тым, што атрады змагароў за волю Айчыны дзейнічалі і ў нашай мясцовасці, аб гэтым упершыню пачуў з вуснаў старога Анупрэя. І адкуль ён ведае такую захапляючую гісторыю, непісьменны чалавек? – падумалася тады мне. Ага, яе расказаў яму яго дзед. І ён добра запомніў тую легенду, а можа і праўду-быль. Гэта ж не так ужо і шмат часу прайшло – мабыць гадоў 45–50.

Мы ўсталі з пянькоў і накіраваліся да сваіх статкаў. Пры развітанні я спытаў у дзядзькі Анупрэя:

– А што потым адбылося з Маркоўскім і яго дружбакамі? Дзе яны пасля ўсяго падзеліся? Што стала вядома людзям аб іхнім далейшым лёсе?

– Ды хто тое ведае, саколік? – адказаў. – Казалі, хто куды падаўся каторы ўцалеў. Калі ж каторы трапіў у рукі карнікаў царскіх, таго не мінавала шыбеніца, як... і самога Кастуся. Яго ж павесілі ў Вільні...

Вось і ўся легенда аб „Маркоўскім грудку". А можа яна і не такая ўжо легенда. Бо „Шыбельная гара" непадалёк ад Івацэвіч мае гістарычную сувязь менавіта з тымі падзеямі, што датычаць паўстання Кастуся Каліноўскага на Беларусі. Невялікае ўзвышша найменавана народам „Шыбельнай гарой" менавіта таму, што там на соснах царскія карнікі на самай справе вешалі паўстанцаў. Яшчэ пасля вайны я сам аглядаў тую сасну, у ствол якой была ўпраўлена некалі іконка Маці Боскай. Можа ўдзячныя нашчадкі ў памяць аб баях Каліноўскага і стварылі цудоўныя легенды пра іх, у гонар іх назвалі розныя мясціны, у тым ліку і ўрочышчы каля маёй роднай вёскі Сенькавічы – „Маркоўскі груд", „Задні брод", „Курнік", „Пажарок"...

**Ф. ХАВАНСКІ,**
**ветэран вайны і працы.**

# Для дома, для семьи, для души...

● *ЖИТЕЙСКАЯ СИТУАЦИЯ*

## КАК ОТБЛАГОДАРИТЬ ЗА УСЛУГУ

Как отблагодарить за бескорыстную услугу человека, с которым мы не связаны дружбой или даже близким знакомством? Дорогой подарок или „денежная" благодарность иногда приводят к взаимной неловкости. А потому остаются „непрактичные" подарки: хорошие цветы с запиской, торт, хорошее вино (для мужчины). Если услуга, оказанная нам, была связана с затратами денег или большого количества времени, можем рискнуть передать „корзину из гастронома": хороший напиток, фрукты, шоколад, кофе. Иногда лучше „отблагодарить" таким образом не сразу, а по случаю праздника. Даже за мелкую услугу, чтобы не чувствовать себя неблагодарным, можно подарить что-нибудь соответствующее интересам человека: редкую книгу, пластинку.

В отношении своих друзей мы тоже нередко испытываем потребность отблагодарить за оказанную услугу. Но здесь никак не следует торопиться, судорожно искать подарок и срочно его вручать: этим можно обидеть. Дружеские отношения между людьми тем и отличаются от прочих, что взаимные одолжения бывают в порядке вещей. Однако и в подобной ситуации никогда не бывает лишним подарить цветы.

● *ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ*

## ОКАЗЫВАЕТСЯ, ХОЛЕСТЕРИН НЕОБХОДИМ

Некоторые ученые-медики не рекомендуют резко снижать содержание холестерина в диете с целью избежать сердечно-сосудистых заболеваний. По их мнению, низкое содержание холестерина в крови повышает агрессивность человека и в конечном счете, увы, не способствует увеличению продолжительности его жизни.

Статистика свидетельствует, что если общая смертность в США от таких причин, как автомобильные катастрофы и аварии, убийства и самоубийства, среди лиц среднего возраста составляет 62 на 100 тысяч, то среди тех, кто прибегает к антихолестериновой диете, она достигает 107 на 100 тысяч человек.

● *МИР ТАЙН И ЗАГАДОК*

## СМЕРТЬ, ЗАТАИВШАЯСЯ В ВЕТРЕ

Знаменитый Великий ураган в октябре 1780 года уничтожил город Саванну-ла-Мар (штат Джорджия, США). По свидетельству очевидца, жители окаменели от изумления, увидев приближение небывалой волны; одним гигантским шквалом, сметая все преграды, она залила город и снесла все и вся. Через семь дней буря достигла максимальной силы. Она совершенно опустошила остров Сент-Люсия, где 6000 человек погибло под развалинами, и потопила стоявший на якоре у острова английский флот. Море здесь поднялось так высоко, что затопило флот и, принеся на гребне одной из своих гигантских волн корабль, бросило его на морской госпиталь, разрушив здание тяжестью судна. Затем ураган направился к острову Мартиника, где было потоплено 40 французских транспортных судов, перевозивших 4000 солдат. Были опустошены также расположенные к северу от острова Доминика острова Сент-Эустатиус, Пуэрто-Рико и потоплено большое количество кораблей, оказавшихся на пути циклона.

● *ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО?..*

## ДОЛЛАР – РУССКОЕ ИЗОБРЕТЕНИЕ

Дизайн – проект доллара, не слишком изменившегося до наших дней, нарисовал Сергей Макроновский, русский эмигрант.

Он же предложил „галерею президентов" на купюрах и, как одно из украшений, треугольник со всевидящим оком – символ мирового порядка, означающий, в частности, единство всех денег мира.

Есть несколько версий „зеленого" доллара. Наиболее оригинальной является следующая: американцы испокон века были нацией если не умеющей читать, то умеющей считать. И потому цвет денег для них роли не играл. Доллары, кстати, в массе своей еще и одного размера независимо от достоинства. А вот на Руси цветные ассигнации с богатыми разнообразными рисунками – не дань державности, а прежде всего дань неграмотности населения: деньги легче различать по цвету и размеру...

● *ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ*

## ГОЛЬ НА ВЫДУМКУ ХИТРА

Многочисленные остающиеся обмылки вполне можно превратить в новое мыло совсем „домашнего" сорта. Не всякий захочет с этим возиться, но кому-то совет пригодится: кому для того, чтобы сэкономить лишние 15-20 тысяч рублей на покупке нового мыла, а кому-то, чтобы реализовать железный принцип рачительного хозяина – в доме ничего не должно пропадать.

Когда у вас соберется примерно литровая банка самых разных обмылков (лучше, чтобы это были кусочки мыла одного предназначения, например, туалетного), их нужно истереть на крупной терке, а потом, высыпав в большую кастрюлю, залить кипятком. Варят мыло часа два, регулярно помешивая.

Затем массу вылить в невысокие формочки (можно использовать металлические ванночки для льда, старые мыльницы, формочки для песка)и просушить при обычной комнатной температуре в течение недели. Готовое мыло вытряхиваете и досушиваете еще несколько дней на листах плотной бумаги.

Некоторые умельцы умудряются ароматизировать домашнее мыло растертыми в порошок листьями мяты или каким-либо ароматным порошком, подкрашивать пищевыми красителями.

Можно скопившиеся обмылки использовать и так: половину литровой банки засыпьте тремя столовыми ложками питьевой соды и залейте доверху кипятком. Когда вы все это размешаете, то получится густая и мягкая масса, прекрасно отмывающая раковины и унитазы...

● *УЛЫБНИТЕСЬ*

В компании в разгар веселья мужчина обнял, поцеловал даму и сказал:

– Ой, простите, дело в том, что вы очень похожи на мою жену!

– Вы нахал, дурак и пьяница!

– Это же надо! Вы говорите точно так же, как она!

XXX

Полицейский останавливает машину:

– Сэр, вы что, не заметили, что в трех кварталах отсюда, когда вы поворачивали, ваша жена выпала из машины?

– Ой, и правда! А я то думаю, почему в машине стало так тихо!

XXX

Разговаривают две подруги:

– Все мужчины пьют...

– А мой еще и ест.

XXX

Один приятель жалуется другому:

– Мне никогда не везло с женами. Первая выгнала меня, вторая ушла от меня, а третья живет и живет, живет и живет со мной.

● ДА ЎВАГІ ВАДЗІЦЕЛЯЎ

# НОВЫЯ ПАДАТКІ НА ТРАНСПАРТ

Збор з уладальнікаў легкавых аўтатранспартных сродкаў і індывідуальных грузавых машын робіцца ў адпаведнасці з артыкулам 18 Закона Рэспублікі Беларусь ад 21 лютага 1997 года „Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год" і пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22 мая 1997 года „Аб зборы з уладальнікаў аўтатранспартных сродкаў".

Падатак за легкавыя машыны ў суме 300 тысяч рублёў плоцяць не толькі індывідуальныя ўладальнікі, але і арганізацыі, установы, прадпрыемствы. Калі да легкавога аўтамабіля ёсць прычэп, то трэба выкласці ячшэ 150 тысяч рублёў.

Калі хтосьці з жыхароў мае свой аўтобус для перавозкі людзей, то падатак складае 450 тысяч рублёў.

За матацыкл трэба занесці ў аддзяленне банка паўмінімальнай зарплаты, гэта значыць 75 тысяч рублёў.

Аб грузавых аўтамабілях. Іх уладальнікі павінны мець квітанцыю на 600 тысяч рублёў. Калі ж да гэтай машыны ёсць прычэп або паўпрычэп, трэба выкласці яшчэ такую суму, як і за грузавік.

Жыхары, якія маюць трактары, павінны заплаціць падатак у суме 375 тысяч рублёў.

Хачу падкрэсліць, што падатак на ўсе названыя віды транспарту, трэба плаціць штогод да першага жніўня. Тэхнічны агляд легкавых машын, грузавікоў, трактараў, матацыклаў праводзіцца не будзе, калі няма квітанцыі аб унясенні ўстаноўленай сумы.

Ёсць нямала ўладальнікаў транспарту, калі тэхагляд іх машын і матацыклаў сёлета не праводзіўся. Але ж гэта не вызваляе іх ад платы тых жа сум грошай, пра якія гаварылася.

Кожны вадзіцель абавязкова павінен мець пры сабе аплочаную квітанцыю, а ў тэхпашпарце сваёй машыны або матацыкла адзнаку „Збор аплочаны".

Калі ж падатак у тэрмін не аплочаны, то за кожны пратэрмінаваны дзень, уключаючы дзень аплаты, налічваецца пеня. І пры гэтым немалая.

Законам і пастановай урада ўстаноўлены льготы для асобных уладальнікаў транспарту. Ад падатку вызваляюцца ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, ветэраны працы, узнагароджаныя ордэнам Працоўнай Славы трох ступеняў, інваліды ўсіх катэгорый, шматдзетныя сем'і.

І апошняе. Работнікі дзяржаўтаінспекцыі і дзяржаўнага тэхнічнага нагляду, правяраючы дакументы ў вадзіцеляў, будуць звяртаць увагу на наяўнасць квітанцыі аб заплочаным падатку і зробленай адзнацы ў тэхпашпарце. Калі ж выявіцца, што ні квітанцыі, ні адзнакі няма, будуць прыняты ўсе меры да таго, каб запазычанасць была хутчэй ліквідавана.

**У. КВАША,**
**старшы дзяржаўтаінспектар Івацэвіцкага РАУС.**

● САЦЫЯЛЬНЫ АСПЕКТ

# РЭКАНСТРУКЦЫЯ ПАЧАЛАСЯ

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Летась у „Газеце Уладзіміра Кудзінава" двойчы пісалася пра вуліцу імя Дзяржынскага райцэнтра. У час дажджоў вада, якая сцякае з высокіх участкаў праезнай часткі, залівае агароды і падворкі жыхароў, што жывуць у нізіне. Склалася такое становішча не па віне гараджан, а саміх мясцовых улад, якія дазволілі будаўніцтва жылых дамоў якраз у гэтым месцы, дзе была сцёкавая канава. Яе засыпалі, і вадзе няма куды дзявацца. Яна шыбуе на агароды і падворкі гараджан (Каланчукоў, Голубевых, Пытлякоў, Брухавецкіх).

І вось, як кажуць, лёд крануўся. На мінулым тыдні ціхую вуліцы (а праезд тут закрыты яшчэ з мінулага года) парушыў гул бульдозера, які працаваў на прафіліроўцы праезнай часткі. Да работы па рэканструкцыі прыступіла міжгаспадарчае прадпрыемства „Івацэвіцкае". Начальнік участка гэтага прадпрыемства Генадзь Андрэевіч Сацішур расказаў аб тым, і будзе тут зроблена.

Старое пакрыццё гэтага ўчастка вуліцы ўжо знята, пачнецца падсыпка. У сярэднім на паўметра падымецца праезная частка вуліцы. Зроблена разбіўка зялёнай зоны і тратуараў. Праектам прадугледжана асфальтавае пакрыццё вуліцы і тратуараў.

І пра самае галоўнае. Для адводу вады насупраць дома Гойшыка будзе зроблены водапрыёмны калодзеж. Адсюль па ўкладзенай трубе вада пойдзе ў ліўневую каналізацыю вуліцы „60 год Кастрычніка".

На вуліцы імя Дзяржынскага паблізу святлафораў з паўночнага іх боку плануецца пабудаваць два малыя ліўневыя калодзежы, адкуль вада пацячэ ў ліўневую каналізацыю вуліцы „60 год Кастрычніка".

— Рэканструкцыя часткі вуліцы імя Дзяржынскага можа зацягнуцца, — заначыў Г. А. Сацішур. — Справа ў тым, што пасярод вуліцы пракладзены водаправод, які тэрмінова трэба мяняць, бо рамонту ўжо не падлягае.

Непрадбачаная затрымка... Мо ўсё ж пераадолеюць яе рамонтнікі? Колькі гадоў чакалі людзі рэканструкцыі сваёй вуліцы! Жыў бы той, чыё імя яна носіць, напэўна, не знасіць бы галавы івацэвіцкаму начальству...

**К. ДЗЯМЧУК.**

● АКТУАЛЬНО

# „КУПАТЬСЯ ЗАПРЕЩЕНО!"

Это всё, что может сегодня предложить любителям купания служба спасения людей на водах. Эти небольшие фанерные щиты с такой надписью паявились на берегу Светиловского озера в Барановичах лишь после жуткой трагедии, разыгравшейся здесь недавно.

Один из купальщиков, юноша 23-х лет, утонул на глазах десятков отдыхающих. Растерявшиеся друзья не сумели его спасти. Спасатели, вызванные с базы на водохранилище „Мышанка", тоже не „забагрили" тела. После длительных попыток разыскать утопленника, вызвали опытных водолазов из Гродно. Те провозились семь суток, пока, наконец, вытащили мертвеца из воды.

Буквально через несколько дней в семи—восьми километрах от Светиловского озера в водоёме возле пригородной деревни Домашевичи исчез под водой ещё один молодой человек. Трое суток безуспешных поисков. Тело всплыло само. Говорят, это происходит, когда лопается жёлчный пузырь.

На речушке Мышанка успели спасти ребёнка. Мать зазевалась в компании. Жлобинское озеро, тоже расположенное в черте города, ежегодно „глотает" неосторожных купальщиков. Собирают свою „дань" и река Шара, , другие водоёмы в районе.

Трагедия за трагедией, а настоящих, действительных мер против них не принимают. Конечно, к каждому любителю покупаться не приставишь спасателя. И всё же...

На реках и водоёмах, особенно в тех местах, где любят собираться отдыхающие, практически нет никакой информации об опасностях, подстерегающих людей в воде. Не говоря уже об организации дежурства спасателей, ограждении буями глубоких и коварных мест, широкого разъяснения людям о грозных характерах водоёмов.

В этом году, например, очень много развелось пиявок. Особенно в малых заболоченных озерцах. В районе ДСР-22 есть два таких болотца. Они славились карасями. В этом году мальчишки попытались протащить там сетку. Браконьерство, конечно. Влезли в воду, а вылезли в „сапогах" из пиявок. Вот переполоху было.

Озеро Гать было спущено для очистки. Несколько лет пустовало. Кое-где были спилены деревца. А потом водой наполнили и теперь „корчи" стерегут под водой любителей поплавать. Да в любой речке есть опасностные водовороты, водоросли, запутывающие ноги-руки. Был же случай, когда в Щаре, что возле Дубровно, парень утонул на глубине „по пояс", обвитый водорослями. Испугался. Не знал, что предпринять.

Где-то читал, как спастись неумеющему плавать. Набрал воздуха в легкие, опустился на дно, резко оттолкнулся к поверхности. И так, „скачками" любой доберется до берега или мелкого места. При этом авторы-специалисты в этом деле утверждали, что сначала согласившимся на опасный эксперимент дали подробные инструкции, показали, как проделывать эти самоспасательные приёмы. И те выбирались с глубин. Рассказать бы это людям. Но нет желания, у ответственных за безопасность на воде, проводить постоянную разъяснительную работу среди населения.

Известно, что спасательная служба тоже ослаблена. Безденежье отобрало средства на её развитие. Чтобы хоть что-то заработать, они надевают водолазные костюмы и ремонтируют запорную арматуру на бесчисленных ирригационных сооружениях. А в это время новые несчастные жертвы, простите, „делают прощально ручкой" из-под воды.



А каков руководящий контингент в спасательной службе? Пенсионеры, военные в отставке. Да, они могут организовать пополнение рядов спасателей и своевременный сбор членских взносов, составить толковые отчёты. И не более.

Спасение утопающих — дело молодых, сильных, опытных пловцов. У нас немало бассейнов, где воспитывают спортсменов по плаванию. Можно же их мобилизовать на это благородное дежурство на летний сезон. Заинтересовав, конечно, и морально, и материально.

Где медали, грамоты за спасение на водах? Где дежурныя лодки с флажками ОСВОДА? Штрафы за нарушение правил купания? Работа с детьми?

...Сидя на берегу, греясь в лучах солнца, мы с восхищением следим за отважными пловцами. И невольно переживаем за них, когда они слишком уж далеко удаляются от берега. Но никогда не предупредили, не остановили их. Так пусть это сделают хотя бы общественные инструкторы с голубой, допустим, повязкой на руке, с мегафоном и лодкой на подхвате, оснащённой простейшими средствами помощи: спасательным кругом, верёвкой, да автомобильной камерой.

Во всяком деле должен быть организатор, наделенный некоторой властью и кое-какими средствами. Ответственный. Тот же ОСВОД... Чтоб не сидел сложа руки и писал в отчете: утонуло столько-то. И на куске фанеры: „Купаться запрещено!"

Беларусь — не морская держава, но бесчисленные реки и озера её беспощадны к неосторожным людям, и особенно опасны там, где спасатели „ловят ворон", забывая, какое ответственное перед государством и людьми им дело поручено.

**П. НАГНИБЕДА.**



● ЗДАРЭННІ

# ЗАГУБІЎ СЯМ'Ю І СЯБЕ

Сярод ночы пачаў высвятляць адносіны з сынам 43-гадовы жыхар Баранавічаў, кіраўнік брыгады бавоўнянага камбіната Аляксандр Хрушч. Раз'юшаны бацька схапіў каністру з бензінам, крыху выліў яго на падлогу і паднёс запаленую запалку. Агонь імгненна разбушаваўся ў кватэры. Па выкліку суседзяў прыехалі пажарныя, якія хутка ўтаймавалі полымя і не далі яму распаўсюдзіцца на іншыя кватэры.

З вогненнага пекла пажарныя вынеслі жонку і старэйшага сына падпальшчыка, якія, на жаль, адразу ж памерлі. Памёр ад моцных апёкаў у бальніцы сам А. Хрушч. У цяжкім стане з апёкамі рук, твару і спіны на бальнічным ложку знаходзіцца малодшы сын, дзевяцікласнік гімназіі.

Узбуджана крымінальная справа. Толькі адказваць за сямейную трагедыю няма каму.

**(Наш кар.).**


Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 21 ліпеня ў 14.00.

Заснавальнікі У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.




Тыраж 1.000 экз.
Заказ № 1677.